## Памінальныя ўрачыстасці на Дзяды ў Гродне

**У сераду, 1 лістапада, а 12-й гадзіне Гарадзенская арганізацыя Беларускага Народнага Фронту распачала мерапрыемствы, прысвечаныя «Дзядам».**

Сябры арганізацыі ўрачыста ўсклалі кветкі і бел-чырвона-белыя стужкі на магілы гарадзенцаў: Марыі Багдановіч, Францішка Грынкевіча, Міхася Васілька, Элізы Ажэшкі, Юрыя Астроўскага, Аляксея Карпюка, Валянціна Шаўцова, Уладзіміра Кісяля ды іншых знаных людзей і сяброў.

Бліжэй да 17-й гадзіны ля шыльды ў гонар паўстанцаў 1863-1864 гадоў пачалася другая частка ўшанаванняў. Некалькі дзесяткаў гарадзенцаў з запаленымі знічкамі ішлі па ўсім горадзе, спыняючыся ля кожнай памятнай мясціны Гродна на хвіліну прамовы. Сардэчнымі словамі, кветкамі была ўшанавана памяць Янкі Купалы, Элізы Ажэшкі, Рыгора Шырмы, Адама Міцкевіча, Міхася Ткачова ды іншых.

Скончыліся ўрачыстасці а 20-й гадзіне ля Каложы памінальным малебнам.

**Павал Мажэйка**

## У Курапатах усталяваныя памятныя крыжы



**29 кастрычніка прайшло традыцыйнае шэсьце ў Курапаты. Мінула ўжо 12 гадоў з таго часу, калі БНФ упершыню вывеў людзей, каб адзначыць сьвята памяці продкаў - «Дзяды». У 1988 годзе людзі пайшлі ў Курапацкі лес, каб ушанаваць памяць бязьвінных ахвяраў камуністычнага рэжыму. Там іх сустрэлі міліцэйскія дубінкі й сьлезацечны газ.**

Сёньня каля дзьвюх тысячаў чалавек ішлі ад Парку Чалюскінцаў да Курапацкага лесу. Удзельнікі памінальнага шэсьця несьлі з сабою вялікія й маленькія крыжы, перавязаныя беларускімі рушнікамі ці бел-чырвона-белымі стужкамі, каб усталяваць крыжы на месцах магілаў.

У саміх Курапатах было ўсталявана каля 20-ці крыжоў. Сьвятар Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы правёў малітву, грала дуда, жалобныя й патрыятычныя песьні сьпяваў фальклёрны гурт Ірыны Мазюк.

Курапацкі лес паступова пераўтвараецца ў лес крыжоў. Калісьці, у пачатку 90-х гадоў здавалася, што хутка ў Курапатах будзе пабудаваны мэмарыяльны комплекс. Але да гэтага часу ўлады не зрабілі нічога. Мала таго. Яны спрабуюць казаць пра тое, што ў Курапатах забіваў не НКВД, - нягледзячы на словы сьведкаў і факты экспэртызы. Крыжы, якія штогод мусяць зьяўляцца ў Курапатах, стануць мэмарыялам, аўтарам якога будзе сам беларускі народ.

**Ул. інф.**

## Лукашэнка сыйдзе?

**Выбары прэзідэнта Беларусі павінны прайсці не пазней за 27 верасня 2001 года. Пра гэта паведаміла журналістам старшыня Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў Лідзія Ярмошына.**

Паводле яе словаў, згаданы тэрмін вылічаецца зыходзячы з палажэнняў дзеючай Канстытуцыі Беларусі, у якой, у прыватнасці, указана, што выбары прэзідэнта праводзяцца не пазней за два месяцы са дня заканчэння тэрміну паўнамоцтваў папярэдняга прэзідэнта. Паколькі Канстытуцыя Беларусі ў рэдакцыі 1996 года ўвайшла ў сілу 27 лістапада і менавіта з гэтага часу адлічваецца тэрмін паўнамоцтваў Аляксандра Лукашэнкі, то прэзідэнцкія выбары павінны прайсці не пазней за 27 верасня 2001 года.

**Юрый Пацёмкін**

# Новы пакт «Молатава-Рыбентропа»

У нядзелю, 15 кастрычніка, у Беларусі адбыліся парляманцкія выбары, абвешчаныя прэзыдэнтам-узурпатарам Аляксандрам Лукашэнкам. Большасьць апазыцыі - Беларускі Нацыянальна-Вызвольны Рух, а таксама так званая аб'яднаная апазыцыя - заклікалі да байкоту гэтых выбараў. Прычыны такой пазыцыі былі відавочнымі. Па-першае, выбары не маюць законнай сілы, бо Аляксандр Лукашэнка ужо не зьяўляецца легітымна абраным прэзыдэнтам, а парлямант паўстаў не ў выніку выбараў, а быў прызначаны Лукашэнкам. Нават выбарчая камісія, якая па загаду Лукашэнкі назірала за ходам выбараў, зьяўляецца нелегітымнай. Па-другое, гэтыя выбары недэмакратычныя, таму што адбываюцца ва ўмовах парушэньня ўсіх прынятых у сьвеце правілаў. Па-трэцяе, лукашэнкаўскі парлямант не мае аніякіх заканадаўчых правоў. Калі б насуперак недэмакратычнай працэдуры у яго ўдалося б увесці адных прыхільнікаў Беларускага Народнага Фронту, гэта не мела б аніякага ўплыву на сітуацыю ў Беларусі. Бо ў адпаведнасьці з навязанымі Лукашэнкам заканадаўствам і канстытуцыяй, орган гэты ня мае істотных правоў. Ня мае нават права заканадаўчай ініцыятывы. Усю ўладу захапіў у свае рукі Лукашэнка.

Тры палітычныя сілы выступалі за правядзеньне выбараў: Лукашэнка, маскоўскія ўлады і нямецкая дыпляматыя, якая пэўны час праводзіць узгодненую з Масквой палітыку легітымізацыі рэжыму Лукашэнкі. Гэта патрэбна Расеі, каб можна было стварыць юрыдычныя гарантыі для інтэграцыйнай дамовы, паводле якой ўтварыўся саюз Беларусі й Расеі. Такім чынам, размова ідзе пра легітымізацыю падпісанага Лукашэнкам аншлюсу Беларусі.

Для нямецкай дыпляматыі, што супрацоўнічае з Масквой, гэта ў сваю чаргу ёсьць гарантыя бясплатнага транзыту нафты і газу праз тэрыторыю Беларусі на Захад і гарантыя падваеньня гэтых паставак. Ханс-Гэорг Вік, нямецкі дыплямат, які ўзначальвае місію АБСЭ ў Менску, лічыць гэта надзвычай важным ва ўмовах энэргэтычнага крызысу, што ўсё больш нарастае ў сьвеце. 25 верасьня сёлета, падчас канферэнцыі ў Беластоку, ён заявіў, што нямецкая дыпляматыя і АБСЭ імкнуцца ўключыць Беларусь у склад Расейскай Федэрацыі, таму што Расея ёсьць дэмакратычнай дзяржавай. За гэта Нямеччына атрымала б газ і нафту на ўмовах, якія гарантавалі б іх бесперабойныя пастаўкі.

Ханс-Гэорг Вік як прадстаўнік АБСЭ ўжо некалькі гадоў дзейнічае ў кірунку расколу Беларускага Нацыянальна-Вызвольнага Руху і стварэньня беларускай апазыцыі, падпарадкаванай нямецкай палітыцы. Нягледзячы на тое, што эўрапэйскія краіны і АБСЭ неаднойчы характарызавалі парляманцкія выбары ў Беларусі як недэмакратычныя і нелегітымныя, Х.-Г.Вік прыклаў шмат намаганьняў, каб схіліць розныя апазыцыйныя арганізацыі ў Беларусі да зрыву байкоту і вылучэньня сваіх кандыдатаў. 29 верасьня ў Вільні я ўдзельнічаў у міжнароднай канфэрэнцыі, падчас якой былы дэпутат Вярхоўнага Савету Беларусі 13-га скліканьня Павал Знавец паведаміў, што яму прапаноўвалі пяць тысяч даляраў на выбарчую кампанію. Але ён адмовіўся прыняць грошы, пра што заявіў у прысутнасьці старшыні Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня Сямёна Шарэцкага, былога старшыні Вярхоўнага Савету Станіслава Шушкевіча ды іншых палітыкаў. У сувязі з гэтым Беларускі Народны Фронт зьвярнуўся да АБСЭ з патрабаваньнем адклікаць Ханса-Гэорга Віка з Менску. Некалькі дзён у Менску адбывалася пікетаваньне сядзібы АБСЭ дзеячамі беларускай апазыцыі.

Падчас апошніх падзеяў у Югаславіі мы атрымалі зьвесткі пра тое, што канцлер ФРГ Гэрхард Шродэр прылецеў на чатыры гадзіны ў Маскву і правёў перамовы з прэзыдэнтам Уладзімерам Пуціным. Мы валодаем інфармацыяй, што падтрымка Расеяй дэмакратычных зьменаў у Югаславіі атрыманая за кошт здачы Беларусі ў Расею. Апазыцыйныя беларускія палітыкі трактуюць гэты гандаль нямецкай дыпляматыі з расейскай імпэрскай палітыкай як своеасаблівую ўвэрцюру да адмовы прызнаньня незалежнасьці й сувэрэнітэту Беларусі ды здачы яе ў валадараньне Расеі. Не трэба тут тлумачыць, што беларуская патрыёты ніколі з гэтым не пагодзяцца.

Насуперак міжнародным пагадненьням пра няўдзел міжнародных назіральнікаў на выбарах у Менску, у апошнюю хвіліну ў сталіцу Беларусі прыбыла дэлегацыя Эўрапарляманту на чале з Элізабэт Шродэр, у праграме якой было спатканьне з Аляксандрам Лукашэнкам і ягоным міністрам замежных справаў, палкоўнікам расейскага КГБ Уралам Латыпавым. Такім чынам, гэта ёсьць палітыкай капітуляцыі перад Лукашэнкам і ягонымі маскоўскімі пратэктарамі. Калі гэтая палітыка будзе працягвацца, а ў Эўропе будзе бракаваць палітычных сілаў, што выступаюць за абарону незалежнасьці Беларусі ды салідарызуюцца з Беларускім Вызвольным рухам, то вынікі капітуляцыі перад Масквой будуць мець уплыў на лёс як Летувы, так і Украіны. Ужо сёньня - калі размова вядзецца пра Украіну - навідавоку сімптомы гэтай зьявы.

Эўрасаюз вядзе перамовы пра дастаўкі расейскага газу і вызначэньне новых, у абыход Украіны, трасаў трубаправодаў. Перамовы гэтыя адбываюцца за сьпіною Польшчы, якая гадамі падкрэсьлівала, што прыняцьце такога дыскрымінацыйнага для Украіны рашэньня аслабіць паўднёва-ўсходняга суседа і штурхне яго ў арбіту расейскай палітыкі, што не адпавядае дзяржаўным інтарэсам Польшчы.

**Зянон Пазьняк,**
**Старшыня Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне»**

**Перадрук з польскага штотыднёвіка «Tygodnik Solidarnosc» ад 20.10.2000**

АДКРЫТЫ ЛІСТ ЛУКАШЭНКУ

# «Аляксандр Рыгоравіч, падарыце мне камп'ютар!»

Паважаны «ўсенароднаабраны прэзідэнт» РБ Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка, паведамляю Вам, што на падставе тайнага рашэння суда Кастрычніцкага раёна г.Гродна ад 21 лістапада 1997 года аб прызнанні мяне, пенсіянеркі па ўзросту, недзеяздольнай, мой голас, аддадзены за Вас двойчы, лічыцца несапраўдным. Да гэтага часу мяне нават не азнаёмілі з тайным рашэннем суда.

Я толькі Вам напісала ўжо дзесяткі лістоў ды тэлеграму, і за пяць гадоў Вашага кіравання не атрымала ніводнага адказу. А ўзгадайце, як я выступала ў Гродне на мітынгу ў Вашу абарону ў перыяд выбарчай кампаніі! Калі Вас аштрафавалі на 5 000 рублёў, я адразу тэлеграмай прапанавала Вам свае пенсійныя 500 рублёў, а астатнія 4 500 рублёў абяцала сабраць ад народу. Але Вы адмовіліся, па тэлебачанні аб'явілі мне, што справа была перагледжана, і з Вас знялі штраф.

Цяпер я маю патрэбу ў Вашай дапамозе. Адправіла Вам ліст, але не ўпэўнена, што атрымаю адказ. Таму і дублірую свой ліст праз ПАГОНЮ. Я хачу выдаць кнігу на 400-500 старонак пра існуючы пад Вашым кіраўніцтвам камуністычны бардак, і мне патрэбны камп'ютар ці грашовая дапамога.

Рай-, гар-, аблвыканкамы мне не дапамагаюць і адказаў не даюць, як недзеяздольнай. Толькі райсабес ды «Гроднахлебпрам» далі мне па тры мільёны рублёў. Яшчэ за кіраванне садаводчым таварыствам ў ролі старшыні, скарбніка і сакратара я атрымліваю два мінімальных заробкі ў месяц ды 12 мільёнаў 700 тысяч рублёў пенсіі. Але гэтых грошай не хапае на выданне маёй кніжкі.

Уся эліта Гродна і Менска - гэта Вашы кадры, мы Вам далі такую ўладу. Гэтыя «людзі», калі можна іх так назваць, прызначаныя на пасады ні Шушкевічам, Кебічам, Грыбам, а Вамі асабіста. Яны свабодна абмінаюць законы РБ, Канстытуцыю, і ніхто ні за што не адказвае.

А Вы вельмі часта гаворыце наконт правоў чалавека ў РБ, нават хваліцеся, што ў нас лепей, чым у іншых рэспубліках СНД. Вы ўзялі б прыклад з ФРГ ды з яшчэ якіх-небудзь краінаў.

Аляксандр Рыгоравіч, падаруйце мне, калі ласка, камп'ютар, я да смерці буду за Вас маліцца! Набор тэксту зраблю сама, для мяне гэта зручней будзе.

Я спадзяюся на Вас, як на Бога.

**Яўгенія Уладзімірава, пенсіянерка**

# Кашляць на здароўе – гэта не пра нас!

**Нягледзячы на надзвычай цёплую восень, прастуды ўжо прымушаюць гарадзенцаў запасацца насовачкамі, гарчычнікамі і аспірынам. Толькі за 25 дзён кастрычніка да ўрачоў звярнуліся 6207 гарадзенцаў, хворых на вострыя рэспіраторныя вірусныя інфекцыі. Кашляюць і чхаюць людзі, з большага, з-за рэзкіх перападаў тэмпературы ды неверагоднага холаду ў кватэрах да пачатку ацяпляльнага сезону.**

Падставаў для хвалявання няма, - паведамілі ў абласным Цэнтры здароўя, такая колькасць захворванняў звычайная для восеньскай пары, і наступу тысячаў вірусаў штогод не пазбегнуць. Проста трэба навучыцца правільна ад іх засцерагацца.

Хворыя звычайна мала хвалююцца пра іншых. Чхаюць, а вірусы разлятаюцца на чатыры-пяць метраў. Таму ў асенне-зімовыя месяцы варта меней бываць у грамадскіх месцах, а наведванні тэатраў і кіно замяняць на паходы ў лес.

Паколькі траціна ўсіх захвараўшых на вострыя рэспіраторныя вірусныя інфекцыі (ВРВІ) - дзеці, трэба асаблівую ўвагу звяртаць на іх вітамінізацыю. Штодзённы рацыён павінен напалову складацца з садавіны і гародніны. Звычайна бацькі імкнуцца набыць свайму малому шакаладную цукерку ці жуйку, у той жа час вельмі проста можна выдумляць розныя прысмакі з морквы і яблыкаў, якіх зараз багата на рынку. Дарэчы, беларускія чарніцы, брусніцы і журавіны змяшчаюць нашмат больш вітамінаў, чым садавіна, якую некалькі месяцаў везлі з Кубы ці Марока.


Галоднаму электарату ніякі вірус не страшны

Акрамя таго, паводле словаў загадчыцы супрацьэпідэмічнага аддзела Гарадзенскага гарадскога Цэнтра гігіены і эпідэміялогіі Святланы Паўлавай, у лістападзе ўжо можна распачынаць імунізацыю супраць грыпу. У аптэках ёсць неблагі выбар вітамінных камплексаў. Напрыклад, «Антыоксікапс» (10 капсулаў) каштуе 312 рублёў; «Гендэвіт» (50 дражэ) - 510 рублёў; 10 шыпучых пілюляў з кальцыем і магніем «Берокка» - 1706 рублёў. Для людзей сталага веку аптэкарці рэкамендуюць «Біявіталь» (флакон, 325 мл) за 7062 рублі ці больш танны айчынны «Ундэвіт». Для капрызных дзетак ёсць смачны сіроп з апельсінавым водарам «Сана-сол», які каштуе 4300 рублёў.

**Юлія Дарашкевіч**

# Святочнае богаслужэнне на чале з Мітрапалітам

**У суботу, 4 лістапада, у Гродна прыедзе Мітрапаліт Менскі і Слуцкі Філарэт.**

Патрыяршы Экзарх усёй Беларусі Мітрапаліт Філарэт распачне святочнае богаслужэнне ў 8.30 у Свята-Пакроўскім саборы горада Гродна. Богаслужэннем на чале з Мітрапалітам праваслаўныя гарадзенцы адзначаць свята Казанскай іконы Божай Маці. Гэты абраз захоўваецца ў Казанскім прыдзеле сабора і лічыцца цудатворным ахоўнікам нашага горада. З іконаю гарадзенскай Казанскай Божай Маці звязаныя цудоўныя паданні.

Напрыканцы XIX - у сярэдзіне XX стагоддзяў гэты абраз захоўваўся ў Сафійскім саборы (былая Фара Вітаўта). Перад наступленнем немцаў падчас першай сусветнай вайны ікону Казанскай Божай Маці хацелі звезці ў Расею разам з іншымі каштоўнасцямі. Аднак дзіўным чынам абраз «не хацеў» пакідаць бажніцу. Калі ж з вялікімі намаганнямі яго дасталі зківоту, то ён даў расколіну. Гэта палічылі знакам таго, што ікона Казанскай Божай Маці жадае застацца ў Гродне. З той пары цудатворны абраз ніколі не вывозіўся з горада, падчас войнаў ды іншых бедстваў быў з гарадзенцамі. Казанская Божая Маці ў праваслаўных лічыцца ахоўніцай Гродна і вельмі шануецца.

Мітрапаліт Філарэт правядзе святочнае богаслужэнне і ў другой палове дня ад'едзе.

З шасці гадзін вечара ў саборы пачнецца ўсяночная.

**Ганна Макоўская**

# Сустрэчу з Генадзем Бураўкіным перанеслі

**Не адбылася шырока разрэкламаваная і чаканая сустрэча гарадзенцаў з Генадзем Бураўкіным. Яна планавалася ў мінулы чацвер у філалагічным корпусе універсітэта.**

Паводле афіцыйнай версіі, сустрэча грамадскасці з нашай літаратурнай элітай перанесена на месяц у сувязі з занятасцю кіраўніцтва ГрДзУ падрыхтоўкай да комплекснай атэстацыі, што праводзіцца ў Гарадзенскім універсітэце Міністэрствам адукацыі.

Прыезд у Гродна Лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі Генадзя Бураўкіна ладзіўся па ініцыятыве выкладчыкаў і студэнтаў кафедры беларускай літаратуры. «Мы згаладаліся па такіх сустрэчах. Генадзь Бураўкін - чалавек з дзяржаўным маштабам мыслення, былы прадстаўнік незалежнай Беларусі ў ААН... Я вельмі паважаю гэтага чалавека, для мяне гэтая сустрэча была справай гонару, - гаворыць арганізатар сустрэчы, выкладчык Мікалай Мікуліч. - Душа баліць, што мы павінны былі адмовіцца ад сустрэчы». У складзе дэлегацыі ў Гродна меліся быць народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін і былы галоўны рэдактар часопіса «Вожык» Валянцін Блакіт. Мерапрыемства папярэдне было ўзгоднена з рэктарам ГрДзУ. Ужо замовілі нумары ў гатэлі, студэнты падрыхтавалі пытанні для дыскусіі. Апрача сустрэчы ва універсітэце, Генадзь Бураўкін планаваў выступленні ў абласной бібліятэцы і ў ліцэі N1. І проста напярэдадні, па просьбе рэктара, усё адмянілі.

Адпаведна неафіцыйным звесткам, Генадзь Бураўкін пакрыўдзіўся. І прыязджаць у Гродна на перанесеную сустрэчу пакуль што не збіраецца.

**Алена Сіневіч**

# Падатковая інспекцыя ў Гродне перадала права спаганяць штрафы ашчаднаму банку

**Днямі атрымаў па пошце паведамленне падатковай інспекцыі па Ленінскім раёне горада Гродна аб аплаце падатка на зямлю. Бланк паведамлення змяшчаў пагрозу налічэння штрафных санкцыяў за несвоечасовую аплату, але да якога тэрміну плаціць - чамусьці не паведамляў. У выніку адбылося тое, што і павінна было адбыцца - час аплаты я пратэрмінаваў (можа, у гэтым і была мэта падатковай інспекцыі?).**

У ашчадным банку касірка заявіла мне, што грошы за падатак не прыме, пакуль я не выплачу пеню. На маё здзіўленае пытанне - хто даў касірцы права спаганяць штрафы ад імя падатковай інспекцыі - яна спаслалася на ліст самой падатковай інспекцыі ды распараджэнне кіраўніцтва банка, якія дазвалялі і абавязвалі яе гэта рабіць.

Прафесійная цікаўнасць прывяла мяне да начальніка аддзела кантролю за падаткаабкладаннем грамадзянаў ІДПК па Ленінскім раёне Гродна спадара Аляксандра Наваграна. З ім у нас адбылася гутарка пра тое, што я павінен, як чалавек разважны, сам здагадацца на падставе нейкіх цьмяных кабалічных графаў і сімвалаў у паведамленні, калі плаціць. Я, аднак, настойваў на тым, што падатковая інспекцыя ў сваіх паведамленнях грамадзянам павінна спасылацца на падставы спагнання плацяжоў і ясна падаваць тэрміны аплаты. Аляксандр Уладзіміравіч крыху наракаў на абмежаваную плошчу аркушыка паведамлення і слабыя магчымасці камп'ютарнай графікі, а таксама на тое, што ўсе формы паведамленняў зацвярджае Менск. Карацей, разумення пастаўленай праблемы ў яго я не знайшоў.

Пасля чаго звярнуўся па тэлефон даверу падатковага камітэта ў Менску (дарэчы, (017) 206-53-53, тэлефануйце, калі Вас «дастане» які-небудзь падатковы клерк). Там паабяцалі разабрацца і абвергалі тое, што тэксты паведамленняў сачыняюцца ў Менску. «Гэта ў кампетэнцыі мясцовых органаў»,- запэўнілі мяне. Акрамя таго, прадстаўнікі Камітэта пагадзіліся з тым, што ашчадны банк не мае права спаганяць штрафы ад імя падатковых інспекцыяў - гэта нагоул кампетэнцыя судовых органаў. На заканчэнне размовы я прапанаваў вярнуць мне незаконна спагнаны штраф і пеню. Менчукі паабяцалі разабрацца.

Упэўнены, што не я адзіны трапіў пад штраф з-за нізкага прафесійнага ўзроўню падатковай інспекцыі. Таму хачу запытаць у кіраўніцтва ІДПК па Ленінскім раёне: «Ці вернеце мне пеню і штраф, ці распрацуеце зразумелы кожнаму (а не толькі разважліваму) чалавеку ўзор паведамлення на аплату падаткаў?».

**Сяргей Сноп**

P.S. Зусім нядаўна пісаў пра тое, што тэлефонныя сеткі прысабечылі права правяраць пашпарты. Цяпер - пра тое, што ашчадбанк узяўся выконваць паўнамоцтвы суда. Чым яшчэ здзівіць мяне любімая дзяржава? А некалі ж была нармальная краіна, палякі на базарах гандлявалі...

# Смаргонскі пікетоўца не скарыўся ўладам

**19 кастрычніка смаргонскі райвыканкам за правядзенне чатырох несанкцыянаваных антывыбарчых пікетаў аштрафаваў Віктара Тураўца на адзін мінімальны заробак.**

Як паведамляла ПАГОНЯ ў N38 ад 12 кастрычніка, першыя два пікеты сябра Кансерватыўна-Хрысціянскай Партыі - БНФ Віктар Туравец правёў 8 і 10 кастрычніка. Падчас другога пікету Віктар быў затрыманы. Маёр Коўшык склаў на яго пратакол і паведаміў, што справа будзе перададзеная на разгляд у райвыканкам.

Але Віктара Тураўца гэта не напалохала. Назаўтра ён зноў паўтары гадзіны стаяў у цэнтры Смаргоні і трымаў плакат са словамі Лукашэнкі «Я на выбары не пайду - усё роўна падмануць».

На апошні пікет Віктар Туравец выйшаў 13 кастрычніка. На працягу гадзіны ён заклікаў людзей сваім плакатам: «Не ідзіце на выбары, дзеля нашай лепшай будучыні», раздаў каля 250 антывыбарчых улётак. Пасля пікету маёр міліцыі Здзянеў прапанаваў яму прайсці ў пастарунак, дзе ў яго былі сканфіскаваныя плакат і 29 улётак. Адпусцілі Віктара праз гадзіну. Пратакол не складалі.

А 19 кастрычніка адбылося пасяджэнне адміністрацыйнай камісіі райвыканкама, на якім разглядалася справа Віктара Тураўца. І тут ён наладзіў своеасаблівы пікет: з'явіўся перад камісіяй з надпісам на грудзях «Сёння Мілошавіч - заўтра Лука» і заявіў лукашэнкаўскім чыноўнікам: «Я не раскайваюся ў тым, што распаўсюджваў улёткі і буду далей весці барацьбу супраць існуючага рэжыму».

**Алеся Сідлярэвіч**

# Вертыкаль прапанавала ПАГОНІ ажывіць гандаль з Малдовай

**Панядзелак, як вядома, - дзень цяжкі. З-за гэтага нялёгка зразумець, з прычыны бадуна, альбо ўсур'-ёз у гэты панядзелак накіраваў да нас, у ПАГОНЮ, факс абласны выканаўчы камітэт. Невядомы жаночы голас пры гэтым загадаў, каб мы выкалалі выкладзенае на двух аркушах заданне на працягу трыццаці хвілінаў.**




Факс меў «шапку» Савета Міністраў, адрас «Мінск, Дом Урада» і нумар 35/102-452. Паводле штэмпеля, у аблвыканкам дакумент патрапіў яшчэ 29 ліпеня 2000 года. Урад патрабуе распрацаваць план мерапрыемстваў па рэалізацыі Праграмы эканамічнага супрацоўніцтва паміж Беларуссю і Малдовай ажно да 2009 года. Пасля чаго ўнесці свае планы ва ўрад у тэрмін да другога кастрычніка.

Мы не ведаем, якія планы ўнясуць пазначаныя выканаўцы факса міністры Батура, Дзямчук, Кокараў, Латыпаў ды іншыя. ПАГОНЯ таксама магла б шмат чаго прапанаваць наконт негацыяў з Малдовай. Параіцца з чытачамі. Але за трыццаць хвілінаў такія справы не робяцца. Так што, калі ўрад усё яшчэ зацікаўлены ў нашых прапановах, то можа звяртацца зноў. Толькі пішыце разборліва і не стаўце такія недарэчныя тэрміны. Ці гэта ў вас такі стыль працы?

**Міхась Капялюш**

# Жыхары горада дамагліся выканання сваіх правоў

Калі нехта думае, што ПАГОНЯ збірае толькі «негатыў», адмоўную інфармацыю пра дзеянні ўладаў, то трэба сказаць, што гэта не так. Рэдакцыя заўжды ўзрадавана, калі знаходзіць станоўчыя вынікі дзейнасці нашых начальнікаў. Напрыклад, мы з радасцю паведамляем, што гарадзенскі гарвыканкам прыслухаўся да патрабаванняў жыхароў дома N60, што па вуліцы Урублеўскага (пра што ПАГОНЯ неаднаразова паведамляла), і распачаў уцяпляльны рамонт гэтага дома.

Хто дамагаецца - той і мае. Так што раім і іншым жыхарам горада энергічна патрабаваць ад уладаў выканання сваіх абавязкаў.

**Ул. інф.**







# Польшча ў Еўропе, а Беларусь...

## У першым паўгоддзі 2000 года Польшча ўжо атрымала замежных інвестыцыяў на суму ў 3,7 мільярда даляраў



У адрозненне ад Лукашэнкі, азіяты даўно зразумелі, дзе лепей. Тысячамі яны спрабуюць, нават незаконна, перабрацца на Захад...

**Падчас побыту ў кастрычніку ў Польшчы я на свае вочы ўбачыў, наколькі лепей і заможней жывуць там людзі. Адным з магутнейшых фактараў руху наперад нашых суседзяў сталі замежныя інвестыцыі. З дапамогай калег я атрымаў магчымасць азнаёміцца са станам справаў у гэтай сферы.**

Адпаведна дадзеным Дзяржаўнага агенцтва замежных інвестыцыяў, толькі ў першым паўгоддзі 2000 года краіна атрымала ў форме непасрэдных інвестыцыяў 3,7 мільярда даляраў. Асабліва актыўным у гэты перыяд быў амерыканскі капітал, які павялічыўся на 1,2 мільярда даляраў. Тым самым амерыканскія інвестыцыі ў Польшчу дасягнулі 6 мільярдаў 396,5 мільёнаў. Важна адзначыць, што ЗША адцяснілі з пазіцыі лідара Германію, чые ўкладанні складаюць 6234,4 мільярда. Замыкае своеасаблівую тройку прызёраў Францыя, інвестыцыі якой перасягаюць чатыры мільярды.

Далей у гэтым спісе ідуць Галандыя, Італія, Вялікабрытанія, Карэя, Швецыя... Цікава, што на дзесятай пазіцыі - Расея, якая ўклала ў польскую эканоміку 1 млрд. 249 млн. даляраў. Прычым, амаль усе гэтыя сродкі РАТ «Газпрам».

Польшчу ўжо праінвеставалі 842 фірмы з 35 краінаў, сярод якіх, апроч вышэйзгаданых, - Японія і Харватыя, Аўстралія і Ліхтэнштэйн, Паўднёва-Афрыканская рэспубліка і Тайвань. На жаль, Беларусі ў гэтым спісе няма. Чаму - мабыць, тлумачыць не трэба.

Паказальна і тое, што на рынак нашых суседзяў ахвотна ідуць так званыя знакавыя кампаніі, чые сімвалы добра вядомыя ўсяму свету. Характэрна, што лідарамі першага паўгоддзя 2000 года сталі амерыканскі Citibank, брытанская Shell, амерыканская General Electric, галандская Philips, шведская Vattenfall.

Што да колькасці інвестыцыяў з пачатку пераўтварэнняў польскай эканомікі, дык тут лідарам з'яўляецца карэйская «Daewoo» (з болей чым 1,5-мільярднымі інвестыцыямі), што ненамнога апярэджвае італійскі «FIAT».

Цікава выглядае і карціна па галінах.

Найбольш ахвотна інвестары ўкладаюць грошы ў вытворчасць прадуктаў харчавання, у тым ліку алкагольных і безалкагольных напояў, а таксама ў вытворчасць тытуню. Другой па прывабнасці сферай з'яўляецца вытворчасць транспартных сродкаў. Далей ідуць вытворчасць вырабаў з мясцовай сыравіны (акрамя той, што змяшчае металы), электрапрыбораў, оптыкі. Паказальна, што наступная ў гэтым спісе - аб'яднаная галіна па вытворчасці цэлюлозы, паперы, а таксама паліграфіі. Значны капітал укладзены ў фінансавы сектар, гандаль, будаўніцтва...

Нам патлумачылі, што прывабіць багатых інвестараў спярша было няпроста. Многія замежныя фірмы, перш як адважыцца на такі крок, чакалі гарантыяў ад польскіх уладаў. Прычым, гутарка ў першую чаргу ішла не пра асабістыя гарантыі (у тым ліку прэзідэнта ці прэм'ера), а пра заканадаўча афармленыя ўмовы размяшчэння капіталу ў польскую эканоміку. Такім чынам, Польшчу хацелі вывесці на звыклыя заходнія стандарты, калі, да прыкладу, пытанне адносна таго, каму можна даць нейкія ільготы, вырашае не кіраўнік дзяржавы, а органы, прызначаныя для гэтага законам. Польскі парламент стварыў такое прававое асяроддзе, што замежныя інвестары проста не маглі абмінуць Польшчу. Тут актыўна запрацавалі фондавыя, валютныя, таварна-сыравінныя ды іншыя біржы. Паводле індэксу прывабнасці для развіцця бізнесу нашыя суседзі ўвайшлі ў лік першых у Еўропе.

Польская дзяржава крок за крокам аддаляецца да непасрэднага кіравання эканомікай. У Варшаве зразумелі, што ў дзяржавы зусім іншае прызначэнне - ствараць умовы для прытоку капіталаў, для свабоднага гандлю, канкурэнтнай вытворчасці...

У выніку Польшчу, як і Венгрыю, ужо называюць лідарам эканамічнага росту сярод краінаў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. Польшча з'яўляецца чацвёртым (пасля ЗША, Швейцарыі і Японіі) буйным экспартным партнёрам Еўрасаюза.

Нашыя польскія калегі надалі асаблівую ўвагу яшчэ адной абставіне. Многія замежныя фірмы не толькі ўкладалі свой капітал у эканоміку краіны, але і дапамагалі палякам сваімі ведамі і досведам, для чаго звярталіся да прафесіяналаў.

І чым больш крокаў было зроблена на гэтым шляху, тым ахвотней замежныя фірмы і кампаніі ўкладалі свае грошы ў развіццё польскай эканомікі. Нядзіўна, што ў форме непасрэдных замежных інвестыцыяў, паводле звестак Дзяржаўнага агенцтва замежных інвестыцыяў, Польшча ўжо атрымала каля 43 мільярдаў амерыканскіх даляраў.

Сёння нашыя суседзі па той бок Буга маюць значна болей падставаў радавацца, чым мы. Зразумела, і ў іх ёсць свае праблемы, далёка не ўсё ў іх бязвоблачна. Прыняцце некаторых выпакутаваных рашэнняў, як лічаць самі палякі, - яшчэ наперадзе. Але ў Польшчы і правыя, і левыя даўно зразумелі правілы аб'ектыўнай рэальнасці: без фінансавых, інтэлектуальных і тэхналагічных рэсурсаў свету не абыдзешся.

У той жа час даводзіцца з сумам канстатаваць, што па аб'ёму непасрэдных замежных інвестыцыяў, Беларусь стабільна ўтрымлівае месца ў апошняй тройцы сярод 27-і пераходных краінаў. Высокая ступень залежнасці ад палітычных рашэнняў, адсутнасць рэальных прававых гарантыяў палохаюць замежныя кампаніі.

Параўнаем некалькі эканамічных паказчыкаў Польшчы і Беларусі, каб стала больш зразумела, наколькі далёка ад нас сягнула заходняя суседка. Так, інфляцыя за 1999 год у Польшчы - 10,1 працэнта, у Беларусі - 351,2 працэнта. Г.зн. у іх грошы за год абясцэньваюцца так жа, як у нас за месяц. Сярэднямесячная заробная плата палякаў, якія працуюць у сектары прадпрыемстваў, склала ў 1999 годзе 452 даляры ЗША.

**Уладзімір Глод**

# Рыгоравіча турбуе Ерусалім

**31 кастрычніка пачаўся афіцыйны візіт у Лівію беларускай дэлегацыі на чале з Аляксандрам Лукашэнкам.**

Паводле звестак замежных СМІ, падчас сустрэчы кіраўніка беларускай дзяржавы з прэзідэнтам Лівіі Муамарам Кадафі, якая адбылася вечарам 31 кастрычніка, абмяркоўваліся як пытанні двухбаковых беларуска-лівійскіх стасункаў, гэтак і праблемы рэгіянальнага і міжнароднага характару, якія ўяўляюць узаемную цікавасць. Адпаведна словам А.Лукашэнкі, яму будзе «лёгка дасягнуць узаемаразумення з лівійскім кіраўніцтвам, бо пазіцыі дзвюх краінаў па шмат якіх пытаннях вельмі блізкія», паведамляюць замежныя СМІ. Абедзве дзяржавы, патлумачыў Рыгоравіч, «выступаюць за шматпалярны свет, за тое, каб мір запанаваў ва ўсіх рэгіёнах Зямлі». А.Лукашэнка заявіў таксама пра сваю «заклапочанасць у сувязі з сітуацыяй, якая склалася на Блізкім Усходзе». Ён перакананы ў тым, што вайна не з'яўляецца добрым сродкам для вырашэння праблемаў. На думку А.Лукашэнкі, у рэгіянальных палітыкаў павінна «хапіць мудрасці дамагчыся справядлівага вырашэння праблемы». «Гістарычная праўда павінна ўрэшце рэшт узяць верх», - падкрэсліў Аляксандр Лукашэнка.

Нагадаем, што падчас візіту ў Лівію Аляксандр Рыгоравіч наважаны дамовіцца наконт паставак у гэтую арабскую краіну беларускіх тавараў і аб прыцягненні ў эканоміку рэспублікі лівійскіх інвестыцыяў.

# «Апошні тыран Еўропы»

**«Падзенне рэжыму Слабадана Мілошавіча прывяло да таго, што ў Еўропе застаўся адзіны дыктатар - беларускі лідар Аляксандр Лукашэнка. Так пачынаецца рэдакцыйны артыкул «Апошні тыран Еўропы», апублікаваны 31 кастрычніка ў газеце «Нью-Ёрк Таймс».**

Далей там зазначаецца, што «пры падтрымцы Расеі Лукашэнка сканцэнтраваў у сваіх руках амаль абсалютную ўладу, практычна не дапускаючы выяўленняў незадаволенасці і прыватнага прадпрымальніцтва. Ён адкрыта захапляецца Гітлерам і гаворыць, што беларусы хочуць, каб ён вярнуў краіну да сталінскіх часоў». На думку аўтараў артыкула, «мінулыя... парламенцкія выбары сталі добрай ілюстрацыяй улады Лукашэнкі - яшчэ больш жорсткай, чым была ўлада Мілошавіча ў Сербіі». «Некалькі дзесяткаў незалежных кандыдатаў у парламент - сапраўды бездапаможны орган - былі адхілены ад удзелу ў выбарах пад рознымі прычынамі, а тым, хто застаўся, дзяржаўнае тэлебачанне наклеіла ярлыкі злачынцаў і наркаманаў, - піша «Нью-Ёрк Таймс». - Прадстаўнікоў апазіцыі, якія заклікалі байкатаваць выбары, арыштоўвалі, іншыя проста зніклі. У той час як Мілошавіч дазваляў дзейнічаць некалькім незалежным тэле- і радыёвяшчальных станцыяў, у Беларусі адзінымі апазіцыйнымі галасамі з'яўляюцца толькі некалькі невялікіх газетаў».

«Яго (А.Лукашэнкі) адносіны з Масквой маюць ключавое значэнне для захавання ўлады, - зазначаецца ў артыкуле. - Пры Лукашэнку Беларусь дае ў распараджэнне Расеі РЛС, размешчаныя паблізу межаў з NATO, а таксама бяспечны шлях для транспарціроўкі газу з Расеі на Захад». У выпадку ўз'яднання дзвюх краінаў Расея можа павялічыць сваю ваенную прысутнасць у Беларусі і парадаваць такім чынам тых расіянаў, якія мараць аднавіць СССР, прагназуе газета. Пры гэтым яна звяртае ўвагу на тое, што «прэзідэнт Расеі Уладзімір Пуцін павіншаваў Лукашэнку са свабоднымі і справядлівымі выбарамі ў парламент». «Такая падтрымка засцерагае Лукашэнку ад замежнага ціску, надае яму легітымнасць у самой Беларусі і забяспечвае беларускую эканоміку электраэнергіяй ды іншай дапамогай», - піша «Нью-Ёрк Таймс».

Больш дзіўным аўтары артыкула лічаць той факт, што «паводле звестак лідараў беларускай апазіцыі, з Лукашэнкам спрабуе наладзіць кантакты Германія.., нямецкія дыпламаты ў Беларусі выступаюць за інвестыцыі ў беларускую эканоміку і ўзаемадзеянне з урадам». Але, нягледзячы на ўсё сказанае, Масква, мяркуе амерыканская газета, «можа дазволіць беларусам выбраць свайго ўласнага лідара - большасць апазіцыйных палітыкаў лічаць цесныя стасункі з Расеяй неабходнымі». Пры гэтым зазначаецца, што «саюз з нерэфармаванай Беларуссю нанясе расейскай эканоміцы яшчэ больш урон».

«У Беларусі адзначаюцца праявы незадаволенасці, аднак апазіцыйныя сілы недастаткова аб'яднаныя, каб іх расчараванне перарасло ў палітычны ўплыў, - канстатуе «Нью-Ёрк Таймс». - Гэтая сітуацыя можа змяніцца. 9 буйных апазіцыйных групаў, прынамсі, на словах, дамовіліся дзейнічаць разам. Гэта адзіны шанец перамагчы Лукашэнку на прэзідэнцкіх выбарах, якія адбудуцца ў будучым годзе». Пры гэтым на Захадзе лічаць, што «хаця Лукашэнка цягне сваю краіну назад, наўрад ці яго ўдасца скінуць у хуткім часе: 10 мільёнаў беларусаў знаходзяцца ў большай ізаляцыі ад сучаснага свету і мацней залежаць ад дзяржавы, чым усе астатнія еўрапейцы».

**Алег Сакалоў**

# Ярмошын абяцаў плаціць

**Мемарандум і пратакол аб супрацоўніцтве паміж урадам Рэспублікі Беларусь і РАТ «Газпрам» падпісаны 27 кастрычніка ў Менску па выніках перамоваў. Свае подпісы пад дакументамі паставілі прэм'ер-міністр Беларусі Уладзімір Ярмошын і старшыня праўлення «Газпрама» Рэм Вяхіраў.**

У дакументах прадугледжваецца далейшае развіццё супрацоўніцтва. Зафіксаваныя, у прыватнасці, намеры бакоў падпісаць пагадненне аб пастаўцы ў Беларусь прыроднага газу ў 2001 годзе, а таксама падтрымка ідэі будаўніцтва газаправода-перамычкі паміж Кобрынам і пунктам Вялке Капушаны (Славакія) цераз тэрыторыю Польшчы для пракачкі расейскага газу ў Заходнюю Еўропу. З гэтай мэтай у 2000-2001 гадах плануецца правесці пошук, распрацаваць тэхніка-эканамічнае абгрунтаванне і прапановы па прыцягненню інвестыцыяў. Акрамя таго, па выніках сустрэчы прэзідэнтамі канцэрна «Белнафтахім» Іванам Бамбізам і ААТ «Сібірска-Уральская нафтагазавая кампанія» Якавам Галдоўскім падпісаны дагавор аб стварэнні ЗАТ «Беларуска-расейскае сумеснае прадпрыемства «Белнафтахім-СІБУР». Яго дзейнасць будзе накіравана на развіццё нафтахімічнага комплексу Рэспублікі Беларусь за кошт паставак сыравіны, вытворчасці ды рэалізацыі гатовай прадукцыі, на развіццё сістэмы беларускага паліўна-энергетычнага комплексу, а таксама на ўмацаванне ды інтэграцыю вытворчых адносінаў паміж суб'ектамі гаспадарання і прадпрымальніцкай дзейнасці Беларусі і Расеі.

Падчас сустрэчы кіраўнік беларускага ўрада выказаў надзею, што раней падпісаныя дакументы і дамоўленасць наконт пастаўкі 16,8 мільярда кубічных метраў газу да канца гэтага года будуць выкананыя. «Пры гэтым мы будзем кіравацца стратэгічнай лініяй - плаціць, прычым плаціць не віртуальна, а грашыма - якія б праблемы ў нас ні ўзнікалі», - запэўніў Ярмошын.

**Ірына Сазановіч**

# РЭКЛАМА Тэлефон: (0152) 72-29-96, 72-37-14




## ПРАДАЮ

- Дом у г.п. Рось з надзелам (6 сотак). Прапаноўваць варыянты. Тэл. 31-02-20.
- Гараж для мікрааўтобуса альбо мяняю на прычэп да легкавога аўтамабіля. Тэл. 44-68-27.
- «ЗАЗ-40» на запчасткі. Тэл. 71-02-19.
- Капот «Ford Sierra», вельмі танна; тэлевізар «Гарызонт-206», кошт - 8 у.а. Тэл. 2-65-60.
- 2-пакаёвую кватэру (2-і паверх) у раёне вуліцы Пушкіна: хатнія рэчы, сценка, кухня, стол, крэсла, канапа, трумо. Тэл. 33-30-98.
- 4-пакаёвую кватэру чэшскай планіроўкі (2-і паверх) ці мяняю. Тэл. 31-05-69.
- 2-пакаёвую кватэру ў г.Іўе (4-ы паверх, тэлефон). Тэл. 72-51-71.
- Камп'ютар. Тэл. 72-29-96 (акрамя серады і выходных - з 10.00 да 18.00) ці 44-69-03 (штодзень, пасля 19.00).
- Каляску-двойку для двайнятаў. Тэл. 76-39-68.
- Два новыя ложкі(1,5); пісьмовы стол, б/у. Тэл. 2-44-77. Набор мяккай мэблі: два крэслы-ложкі, канапа-ложак. Можна паасобку. Тэл. 76-19-29.
- Халадзільнік «Снайге-10», б/у. Тэл. 31-87-95.
- Баян «Тульскі». Тэл. 72-67-98 (пасля 18.00).
- Каракулевае футра (памер 46-48), норкавую шапку, жаночы і мужчынскі кажухі, штучнае футра, мужчынскія боты (памер 42), мужчынскую куртку, паліто. Тэл. 6-11-40.
- Жаночае паліто з цёмнасіняй плашчоўкі на натуральнай шарсцяной падкладцы (памер 48-50, кошт - 5000 рублёў), мужчынскае драпавае паліто (памер - 52-54, рост 185-192, кошт - 4000 рублёў). Тэл. 33-46-02.

**Дробную бульбу. Тэл. 72-59-38.**

- Старажытную шафу. Тэл. 44-26-71, 72-21-23.
- Металічную цапліцу пад шкло. Тэл. 75-33-55.
- Фаеркі, пераключальнікі да электрапліт. Тэл. 74-11-38.
- Ударную ўстаноўку; фотаапараты «ФЭД-3», «Эликон-Автофокус», «Эликон-535»; магнітафон «Маяк-205-стэрэа», кнігу «Былины П.И.Рябинина-Андреева», 1940 г. Тэл. у Ваўкавыску 96-1-83.
- Кнігі: В.П.Грыцкевіч «От Немана к берегам Тихого океана», Менск, 1982 г.; В.П.Грыцкевіч «С факелом Гиппократа», Менск, 1987 г.; Э.А.Ляўкоў «Маўклівыя сведкі мінуўшчыны», Менск, 1992 г.; А.Т.Федарук «Садово-парковое искусство Белоруссии», Менск, 1989 г. ды іншыя. Дасылайце замовы на адрас: 246024, г.Гомель, вул.Свярдлова,56 (А.В.Копаць) альбо тэлефануйце на нумар у Гомелі 3-16-39 (пасля 19.00).
- Дзіцячую шубу (паўшубак) зялёнага колеру, б/у (на ўзрост ад 9 да 13 гадоў). Танна. Тэл. 47-32-06.

## КУПЛЮ

- Машыну чарназёму альбо торфу з дастаўкай. Тэл. 72-70-60.
- Відэа-прыстаўку «Sony Play Station», б/у. Тэл. 2-69-92.
- Настольную лямпу. Танна. Тэл. прац. 72-37-14, 72-29-96 (з 10.00 да 18.00, акрамя серады і выходных, запрасіць Святлану).
- Невялікую ракавіну-ўмывальнік для ваннага пакоя, можна б/у. Танна. Тэл. 47-32-06.
- Кухонны камбайн «Мрыя-2» на запчасткі. Звяртацца, в.Путрышкі, вул.Альшанава, 85.
- Сухую неабрэзную дошку (таўшчыня - 50 мм); пярэднія крылы да «Волгі ГАЗ-24». Тэл. 74-11-38.

**Антыкварыят, старыя манеты, узнагароды, гадзіннікі. Тэл. 72-02-26.**

- Стартар да «Явы». Тэл. 99-25-41.
- Старыя піўныя бутэлькі з надпісамі на шкле. Тэл. 75-33-55.
- Бензін у любой колькасці. Тэл. 99-49-96.
- Саджанцы элеўтэракоку. Тэл. 2-69-31 (запрасіць Яўгена).

## МЯНЯЮ

- 4-пакаёвую кватэру і пакой (18 кв.м). Разгледжу любыя варыянты. Тэл. 76-28-02.
- Бытоўку (ДСП) на прычэп да легкавога аўтамабіля альбо прадаю. Тэл. 44-68-27.

## ПАСЛУГІ

- Распрацоўка праграмаў, устаноўка Windows ды інш.; рэпэтытарства па камп'ютарах. Тэл. 74-02-31.
- Урокі класічнай ігры на гітары на аснове сціслага вывучэння элементарнай тэорыі музыкі і музычнай гармоніі. Тэл. 72-16-55.
- Камп'ютарны набор, раздрукоўка на лазерным прынтары. Тэл. 5-36-02 (запрасіць Юлію).
- Балконныя рамы (кошт 1 кв. метра - 9 у.а.), дзверы ўваходныя міжпакаёвыя, балконная абшыўка (кошт 1 кв.метра - 6 у.а.); кладзем шведскую падлогу са свайго матэрыялу і матэрыялу замоўцы. Тэл. 74-11-38.
- Набор тэкстаў, табліцаў на камп'ютары. Раздрукоўка на струйным альбо матрычным прынтары. Танна. Не абавязкова на Вашай паперы. Тэл. 93-53-56.
- Рэпэтытарства па ангельскай мове. Дасведчаны высокакваліфікаваны педагог. Тэл. 72-62-79.
- Беларуская, расейская, ангельская, балгарская, польская мовы: пераклады, індывідуальныя заняткі. Тэл. 2-85-77.
- Ангельская мова: афармленне дакументацыі, анкетаў, пераклады. Тэл. 31-15-83 (запрасіць Аляксандра).
- Рамонт каляровых тэлевізараў. Устаноўка ПАЛ, дыстанцыйнага кіравання, тэлетэксту. Ліцэнзія N1243, выдадзеная МП да 2004 года. Тэл. 31-37-05.
- Рэпэтытарства па ангельскай і нямецкай мовах. Пераклады. Тэл. 6-12-71 (пасля 18.00).
- Ангельская мова для ўсіх. Тэл. 76-38-02.
- Кладу печы, каміны. Хутка, якасна, надзейна і прыгожа. Тэл. 6-46-32.
- Дапамагу ў выкананні задачаў, кантрольных, курсавых і дыпломных работаў па любых будаўнічых канструкцыях, супрацьўленню матэрыялаў, тэарэтычнай тэхнічнай ды будаўнічай механіцы. Тэл. 72-16-55.
- Рэпэтытарства па фізіцы. Дапамагу ў рашэнні задачаў, кантрольных работаў. Тэл. 76-55-14 (запрасіць Юрыя).
- Усё па беларускай, ангельскай і лацінскай мовах. Тэл. 33-21-83.
- Выраб ксеракопіяў у вялікай колькасці. Пасведчанне N17955. Тэл. 44-14-33 (з 12.00 да 14.00).
- Рэпэтытарства па хіміі, біялогіі. Тэл. 31-50-27.
- Набор тэкстаў на камп'ютары, сканаванне, раздрукоўка на матрычным прынтары. Тэл. 76-55-16.
- Ангельская мова: пераклады і кантрольныя работы. Хутка і якасна. Тэл. 31-15-83.
- Абследаванне і лячэнне хранічных захворванняў па методыцы Р.Фоля. Ліц. МЗ РБ N224 да 30.XII.2001 года. Тэл. (8-017) 258-88-14.

**Доктар С.Каляда**
Інтэнсіўная псіхатэрапія алкагалізму, залішняй вагі. Найноўшыя методыкі. Тэл. 74-35-46 (да 18.00). Ліц. N796 па 23 сакавіка 2004 г., МЗ РБ.

- Відэаздымка. Якасна, прафесійна выканаем работы па стварэнню відэафільма, відэакліпа, рэкламнага роліка. Ліцэнзія N613, выдадзеная МК да 2004 года. Выязджаем на месца здымкі на сваім транспарце. Звяртацца: 231900, Гарадзенская вобласць, г.Ваўкавыск, а/с 17. Тэл. 2-34-86.

## РОЗНАЕ

- Шукаю працу на прадпрыемстве па рамонту і зборцы мэблі. Тэл. 44-39-15.
- Міжнародная мова эсперанта. Новыя сябры! Карыстайся шанцам! Усё геніяльнае проста. Ад Вас: канверт са зваротным адрасам + купон б/а. Лісты дасылайце на адрас: 246008, г.Гомель-8, а/с 9.
- Прапішу двох чалавек. Тэл. 6-83-19.
- Шукаю працу на прадпрыемстве па падшыўцы і падклейванні падэшваў у абутку. Тэл. 31-77-41.
- Здыму 1-пакаёвую кватэру з тэлефонам і мэбляй на адзін месяц. Тэл. 5-33-58 (запрасіць Святлану).
- Здаю напракат вясельную сукенку з вэлюмам (фатой). Танна. Тэл. 71-02-19.
- Здаю пакой на суткі. Тэл. 72-07-40.
- Шукаю працу на прадпрыемстве па абіўцы мяккай мэблі, па нарэзцы пратэктару шынаў легкавых, грузавых машынаў усіх марак. Тэл. 44-39-15.
- Ахвотныя атрымаць кнігу Міколы Ермаловіча «Беларуская дзяржава Вялікае княства Літоўскае» дашліце замову, свой паштовы адрас і 2300 рублёў на адрас: 220131, Менск-131, п/с 268 (Алесю Міхайлавічу Сабаленку). Кнігу атрымаеце праз пошту. У Менску кнігу Міколы Ермаловіча можна набыць у сядзібе ТБМ, што месціцца ў Менску па вуліцы Румянцава,13. Тэл. 284-85-11.
- Старажытныя рэцэпты народнай медыцыны. Ад Вас: замова, канверт са зваротным адрасам + купон б/а. Адрас: 246008, г.Гомель-8, а/с 9.
- Шукаю працу бухгалтара на прадпрыемстве. Досвед працы - 7 гадоў, маю вышэйшую адукацыю, умею працаваць на камп'ютары. Тэл. 91-93-68 (з 9.00 да 12.00).
- Ручное вязанне. Тэл. 72-58-94.
- Супрацоўнікі рэдакцыі ПАГОНІ нагадваюць чытачам, якія дасылаюць аб'явы ў рубрыку «Знаёмствы», пра неабходнасць указваць напрыканцы купона нумар паштовага аддзялення сувязі і сваёй абаненцкай скрыні, альбо пакідаць наступную інфармацыю: індэкс паштовага аддзялення, «да запатрабавання, прад'яўніку пашпарта ці іншага дакумента...»; ці прыходзіць у рэдакцыю з купонам аб'явы і сваім пашпартам. Гэта дасць усе падставы меркаваць, што абвесткі наконт знаёмстваў належаць менавіта вам, шаноўныя чытачы, а не тым, хто жадае з вас пажартаваць.

## ЗНАЁМСТВЫ

- Хлопец без шкодных звычак, нармальнага целаскладу, жадае пазнаёміцца з дзяўчынай для сур'ёзных адносінаў і вялікага кахання. Пісаць: 230012, г.Гродна, да запатрабавання, прад'яўніку дакумента N388556.
- Пазнаёмлюся з прыстойным мужчынам, які не злоўжывае алкаголем і не пазбаўлены пачуцця гумару. Пісаць: 230026, г.Гродна, да запатрабавання, прад'яўніцы пашпарта КН 0061353.
- Пазнаёмімся з дзяўчатамі да 28 гадоў (калі ў вас ёсць дзеці - гэта не перашкода). Пра сябе: 25/181 і 25/188. Пісаць: 230005, г.Гродна, да запатрабавання, прад'яўніку пашпарта КН 01836605.

## СПАЧУВАННІ

Сябры і блізкія спачуваюць сваякам з прычыны смерці Белавусавай-Петрашэвіч Ірыны Канстанцінаўны

---

RADIO FREE EUROPE RADIO LIBERTY

**Беларуская служба Радыё Свабоды**

| ЧАС | kHz | ХВАЛІ |
|---|---|---|
| 18:00-19:30 | 7190 | 19 |
| | 9615 | 31 |
| | 15460 | 41 |
| 22:00-23:30 | 6010, 6170 | 31 |
| | 9845 | 49 |
| 06:00-07:00 | 5995 | 31 |
| | 7295 | 41 |
| | 9750 | 49 |

**Сярэднія хвалі – 576 і 612 кГц**

Адрас: 220005, Менск-5, п/с 111;
Vinohradska, 1, Praha 110 00 CZ

Інтэрнэт WWW.SVABODA.ORG

**НАСТРОЙЦЕСЯ НА «СВАБОДУ»!**

---

Калектыў бальнага танца
«Сінтэз» аб'яўляе набор у
**школу бальнага танца**
для дарослых
Кіраўнік - Валянціна Шапавалава
Арганізацыйны сход - 3 лістапада ў 19.00
у Палацы культуры «Юнацтва»

---

**ПАГОНЯ купон прыватнай бясплатнай аб'явы**

33 Імя і прозвішча ____________________

Адрас (тэлефон) ____________________

Рубрыка ____________________

Тэкст ____________________

Аб'явы, дасланыя на купонах, друкуюцца ў першую чаргу; неразборліва напісаныя аб'явы не друкуюцца

Купон з тэкстам адпраўце па пошце на адрас: 230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11

---

# Гарадзенскі ўікэнд



**Гісторыка-археалагічны музей. Стары замак.** Выстава «Гродна, адкрыты археолагамі». **Новы замак.** Працягвае дзейнічаць экспазіцыя «Зброя мінулых стагоддзяў». Сенатарская зала. Фотавыстава Аляксандра Ласьмінскага пад назвай «Свіцязь - мая любоў».

**Галерэя «У Майстра» (вул. Кірава, 14).** Выстава фотамастака Юрыя Палуцкага пад назвай «Прыадкрыццё сябе».

**Галерэя «Тызенгаўз» (пл.Тызенгаўза, 4).** 4 лістапада - адкрыццё выставы «Свет вачыма жанчыны».

**Выставачная зала Саюза мастакоў.** Фотавыстава Георгія Гулеўскага «Макракосмас».

**Музей Гісторыі Гарадніцы (вул. Ажэшкі, 37).** Персанальная выстава каваных вырабаў Юрыя Круша.

**Дызайн-галерэя «Раскоша» (вул. Ажэшкі, 39а).** Выстава антыкварыяту, керамікі, шкла, скуры і твораў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

**Музей Максіма Багдановіча** запрашае з 10.00 да 18.00. Выходныя дні: нядзеля, панядзелак.

**Гарадзенскі Дом афіцэраў.** 6 лістапада - Якаў Навуменка і гурт «Карусель» ў канцэртнай праграме «Гадзіна пік». Пачатак у 18.00 і 20.30.

**Тэатр лялек.** 4 лістапада ў 12.00 - «Неверагодны ілюзіён», у 19.00 - «Тутэйшыя». 5 лістапада ў 12.00 - «Снежная каралева», у 19.00 - Чай на двух». 6 лістапада ў 12.00 - «Прыгоды Пінокіо», у 19.00 - «Прыхадзень». 7 лістапада ў 12.00 - «Казка пра Ямелю», у 19.00 - «Увесь свет - тэатр...». 8 лістапада - прэм'ера спектакля «Трагедыя аб Макбэце». Пачатак у 19.00.

**Моладзевыя дыскатэкі**

**Начны клуб «Клетка»** - з 21.00 да 06.00 (чацвер - нядзеля).

**Кінатэатр «Кастрычнік»** - з 22.00 да 01.00, працуе кафэ-бар (серада - нядзеля).

**Палац тэкстыльшчыкаў** - з 20.00 да 24.00 (у пятніцу), з 20.00 да 01.00 (у суботу), з 20.00 да 01.00 (у нядзелю).

**Палац «Юнацтва»** - з 20.00 да 01.00.

**Калізей-2000.** Начны клуб адчынены з 23.00 да 05.00, акрамя панядзелка - танцавальныя і стрыпцізшоу. Рэстаран працуе з 12.00 да 05.00.

**Гатэль «Нёман».** Начны клуб-казіно «777». Дзейнічае бар, танцавальнае шоу, казіно. Клуб адчынены з 20.00 да 06.00.

ПЯРЭСТЫ КУТ

# 20-годдзе Уладзіміра Захарава

**Гарадзенскі гітарыст Уладзімір Захараў адзначаў свой 20-гадовы юбілей на сцэне. Канцэрты, якія арганізавала з гэтай нагоды абласная філармонія, прайшлі з поўным аншлагам.**



Жарсць Уладзіміра Захарава - гітара
Фота Валерыя Каваленскага

Уладзімір граў як творы айчынных аўтараў, так і транскрыпцыі лацінаамерыканскіх, гішпанскіх і аргенцінскіх кампазітараў. Уласныя творы маэстра з «Дзіцячага альбома» можна было не толькі паслухаць. Так бы мовіць, жывую карцінку стварала група сучаснай харэаграфіі «ТАД», з якой спадар Захараў супрацоўнічае ўжо каля пяці гадоў.

Уладзімір Захараў - лаўрэат міжнародных конкурсаў у Кракаве і Гданьску, адзін з трох магістраў мастацтва на Беларусі. Ягонае імя нават ёсць у пятым томе «Беларускай энцыклапедыі». Уладзімір ужо запісаў два кампакт-дыскі і зараз шукае спонсараў для іх тыражавання.

Лета Уладзімір Захараў правеў у Гішпаніі, выступаючы на фэстах. А сёння ён выкладае ў музычным вучылішчы і працуе на палову стаўкі ў Гарадзенскай абласной філармоніі, дзе мае заробак ў 15 тысяч рублёў. Менавіта столькі атрымліваюць на Беларусі артысты, салісты, інструменталісты вышэйшай катэгорыі са стажам звыш 15-ці гадоў - амаль як прыбіральшчыкі.

Дарэчы, канцэрты Уладзіміра Захарава былі першымі ў новай камернай зале Абласной філармоніі. Як паведамілі нам яе супрацоўнікі, гэта яшчэ не было афіцыйнае адкрыццё залы. Тое-сёе яшчэ будзе зменена: напрыклад, колькасць месцаў скароціцца да 150 (зараз іх болей як 200), а крэслы будуць пастаўленыя такім чынам, каб было лепш відаць сцэну.

**Юлія Дарашкевіч**

## Украінцы запрашаюць у госці

**У нядзелю, 5 лістапада, у актавай зале Гарадскога Дома культуры адбудзецца «Дзень украінскай культуры».**

**Арганізуе свята ўкраінская суполка «Барвінок». У праграме - канцэрт музычных калектываў з Украіны і Беларусі, сустрэчы з цікавымі людзьмі.**

**Пачатак мерапрыемства - а 15-й гадзіне ў актавай зале.**

**Уваход вольны.**

# «Нёман» закрыў сезон у Гродне

**У аўторак, 31 кастрычніка, гульнёю з менскім «Тарпеда-МАЗ» наш «Нёман» скончыў футбольны сезон у Гродне.**

Апошняя гульня не гарадзенскім стадыёне прайшла на мажорнай ноце - «Нёман» перамог суперніка 2:1.

Чэмпіянат, які стаўся для «Нёмана» надзвычай удалым, нашая каманда, нягледзячы на яшчэ адну гульню, скончыць у кроку ад медалёў - на чацвёртым месцы.

Гарадзенскім аматарам футбола застаецца толькі чакаць магчымага ўдзелу «Нёмана» ў Кубку Інтэртота.

**Павал Мажэйка**

COCTAIL-PARTY з лагодным дэндзі

# Кіношная моладзь за 30 тысяч «зайчыкаў»

**Няма чаго казаць пра гаротны стан айчыннага кінематографа, якога зараз па сутнасці ўжо няма. Вядома, з прычыны адсутнасці грошай. Няма кіношнай традыцыі, пераемнасці кадраў... Але некалі нешта ж было! Здымалі вудоўныя карціны на «Беларусьфільме», гадавалі кінарэжысёраў...**



Юры Гумянюк

Вось і летась, пасля шматгадовага перарыву, небезвядомы Міхаіл Пташук набраў паводле сур'ёзнага конкурсу ў Беларускую акадэмію мастацтваў групу з сямі маладых кінарэжысёраў. Ідэя, канешне, шляхетная - адраджэнне нацыянальнага кінематографа. Што з гэтага атрымаецца - невядома. Пасля года навучання тры чалавекі пакінулі групу з ідэалагічных прычынаў. А мо з-за таго, што за сваю жабрацкую стыпендыю ў 6 000 рублёў у месяц яны аніяк бы не здолелі знаць у якасці студэнцкай працы нават прымітыўную кароткаметражку. Паважаны маэстра М.Пташук вучыць: маўляў, рэжысёр сам павінен здабываць грошы на карціны. Для яго, як мэтра, што мае вядомасць, магчымасцяў шмат: дзяржбюджэт, айчынныя і замежныя фундатары, дый «бацька» спрыяе за лаяльнасць. А што ёсць у студэнтаў, акрамя дзіркі ў кішэні?

У маладых ёсць ідэі ды жаданне. І яны неяк выкруціліся! Наздымалі за лета кароткаметражак. Праўда, узніклі праблемы з мантажом. Дзве студэнцкія працы нават купіў Белвідэацэнтр. А рэжысёры-пачаткоўцы атрымалі...па 30 тысяч «зайчыкаў». Такім чынам Белвідэацэнтр купіў стужкі ніжэй за іх сабекошт! А вы, дэбютанты, маўляў, падзякуйце, што і гэтае атрымалі. Зразумела, што ані акторам, ані іншым асобам, што дапамагалі ў здымках, не дасталося ні капейкі. Пра аўтарскае права нават і гаворкі не было. Ну проста супер!

Шкада гэтых студэнцікаў. Бо як падумаеш, колькі яшчэ разоў іх прыніззяць за чатыры гады навучання сакрэтам кінамайстэрства, дык не паверыш, што яны датрываюць да шчаслівага фіналу і створаць урэшце нацыянальнае кіно.

А пакуль у айчынным кінематографе вядуць рэй таварышы асяронкі.

**Юры Гумянюк**

1.Кідальная зброя для палявання; востры зубчасты наканечнік з каменю, косці ці металу, змацаваны з драўляным дзяржаннем. 2.Точаны фігурны слупок поручняў. 3.Фарба, якая здабываецца з марскіх лішайнікаў. 4.Месцы ў гарачай пустыні, дзе ёсць вада і расліннасць. 5.Дакладны памер якіх-небудзь прадметаў вытворчасці. 6.Від несалодкага пячэння. 7.Спякота, духата. 8.Матэрыял разбурэння горных парод, якія цягне і адкладае перад сабою, па баках, пад целам ледавік падчас свайго руху.

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | | | | | | |
| 2 | | | | | | | |
| 3 | | | | | | | |
| 4 | А | | | | | | |
| 5 | | | | | | | |
| 6 | | | | | | | |
| 7 | | | | | | | |
| 8 | | | | | | | |

**Адказы на крыжаванку, змешчаную ў N40:**

**Па гарызанталі:** 7.Саджалка. 8.Падсочка. 10.Плынь. 11.Албанка. 12.Штатыў. 14.Шчасце. 16.Кітай. 17.Грак. 19.Кіпцюр. 20.Безліч. 24.Шыба. 25.Вайна. 26.Гранат. 30.Фурман. 31.Лазурыт. 32.Дукса. 33.Гальштук. 34.Макароны.

**Па вертыкалі:** 1.Карэлічы. 2.Каганец. 3.Скопас. 4.Баль. 5.Асвята. 6.Аколышак. 9.Пырнік. 13.Балея. 15.Скіба. 17.Гліна. 18.Любан. 21.Выпустак. 22.Знічка. 23.Бадылліна. 27.Разанаў. 28.Гамашы. 29.Славак. 32.Друк.

# Гараскоп

♈ **Баран (21.03-20.04).** Стрымлівайце свае падсвядомыя імпульсы і неўтаймаваныя жаданні, каб пазбегнуць дэпрэсіі ды нервовых зрываў.

♉ **Бык (21.04-20.05).** Паспрабуйце не засяроджвацца на няўдачах і няспраўджаных надзеях, якія, магчыма, з'яўляюцца знакам для таго, каб трохі суняць амбіцыі.

♊ **Блізняты (21.05-21.06).** Ваша новае знаёмства абяцае стаць працяглым захапленнем. Аднак прычынаў губляць галаву няма аніякіх.

♋ **Рак (22.06-22.07).** Не надавайце занадта вялікага значэння мімалётным сустрэчам. Пашукайце іншыя падыходы да сваіх праблемаў.

♌ **Леў (23.07-23.08).** Вам не варта расслабляцца, бо канкурэнты не дрэмлюць. Дакажыце ўсім, што Вас яшчэ рана скідаць з рахунку.

♍ **Панна (24.08-23.09).** Усе закінутыя справы патрабуюць вырашэння, бо нарастаюць новыя праблемы. Залог Вашага поспеху - раўнавага і душэўная гармонія.

♎ **Шалі (24.09-23.10).** Вашыя ідэі паспяхова рэалізуюцца, аднак прыбыткаў будзе крыху меншым за чаканы. Сачыце за здароўем.

♏ **Скарпіён (24.10-22.11).** Фінансавыя праблемы, што на першы погляд пададуцца Вам страшнымі, вырашацца надзвычай лёгка. Ваш козыр - абаяльнасць.

♐ **Стралец (23.11-21.12).** Больш працягльы час праводзьце са сваякамі. Адпачынак побач з роднымі і блізкімі людзьмі - найлепшы бальзам для Вашай нервовай сістэмы.

♑ **Казярог (22.12-20.01).** Пазбягайце канфліктных сітуацыяў на працы і беражыце кашалёк - вялікая верагоднасць непатрэбных раскатаў.

♒ **Вадалей (21.01-19.02).** Аптымальны дэвіз гэтага тыдня - справы пачакаюць. Тым больш, што фінансы і праца дазваляюць расслабіцца.

♓ **Рыбы (20.02-20.03).** Не прымайце блізка да сэрца праблемныя моманты ў стасунках з блізкімі. На самой справе не ўсё так сур'ёзна, як Вам падаецца.

# Гарадзенскія гісторыкі паказалі ўзор змагання

**21 кастрычніка ў Беластоку завяршылася двухдзённая гістарычная канферэнцыя «Змаганне за беларускую дзяржаўнасць у XX стагоддзі». Арганізаваная Беларускім гістарычным таварыствам канферэнцыя стала першай у гісторыі на падобную тэму. У ліку 30 дакладаў былі пададзеныя і шэсць дакладаў гарадзенскіх гісторыкаў. Алесь Смалянчук выступіў на тэму «Беларускі нацыянальны рух і краёвая ідэя», Сяргей Піваварчык - «Беларуская сацыял-дэмакратыя: стан і перспектывы». Сяргей Сноп і Павал Мажэйка вялі размову адпаведна пра «Адназенне савецкіх праваахоўных і судовых установаў у Заходняй Беларусі ў перыяд 1944-1953 гадоў» і «Незалежніцкія памкненні беларускай моладзі ў сярэдзіне 80-х гадоў». Прыстойным узроўнем даследавання вызначаліся таксама і выступленні Сяргея Токця і Эдуарда Мазько.**

Арганізатарка канферэнцыі, выкладчыца кафедры беларускай культуры ў Беластоцкім універсітэце Алена Глагоўская была вельмі ўражаная гарадзенцамі: «У выступленнях гарадзенцаў адчуваецца зусім іншы, чым у астатніх гісторыкаў, падыход да дзяржаўнасці. Вельмі блізкі да, можна сказаць, нармальнага падыходу. Сяргей Токць, які на прыкладзе канкрэтнай рэчаіснасці даваеннай Польшчы, канкрэтнай гміны паказаў, як ставіліся да ідэі беларускай дзяржаўнасці звычайныя жыхары. Для мяне гэта ёсць узор для даследавання цяперашняга беларускага грамадства.

Эдуард Мазько - вядомы ўжо даследчык беларускахрысціянскай дэмакратыі. У Беларусі ўсё ж такі замала пішацца пра тое, аб чым гаварылі гарадзенцы, пра тыя ці іншыя плыні на «крысах усходніх да вайны».

Наогул арганізатары ставілі перад канферэнцыяй тры галоўныя мэты. Па-першае, напрыканцы XX стагоддзя асэнсаваць у параўнанні з іншымі дзяржавамі, досвед у галіне беларускай дзяржаўнасці. Па-другое, паказаць, што зроблена ў гэтым кірунку на канкрэтным беларускім панадворку. Абмеркаваць, якія формы дзяржаўнасці, былі створаныя, якія былі ўнутраныя і вонкавыя ўмовы стварэння самастойнай беларускай дзяржавы. Хацелі ўрэшце рэшт ацаніць, чым была БССР у аспекце рэспублікаў Савецкага Саюза.

Аднак, як лічыць Алена Глагоўская, не ўсё атрымалася: «Не ўдалося пачуць даклад пра ролю апазіцыі ў станаўленні беларускай дзяржавы ў 1990 годзе і пазней. Такі аналіз апазіцыі дапамог бы зразумець сённяшняе становішча беларускай апазіцыі. Не хапіла і паліталагічнага аналізу сітуацыі пасля 1990 года. Гэта вынік таго, што паліталогія ў Беларусі - маладая навука, і, што было відаць па дакладах, вельмі абцяжараная метадалогіяй навуковага марксізму».

Адным з пытанняў, якое доўга і зацята абмяркоўвалася не канферэнцыі, стала пытанне палітыкі «беларусізацыі». Была выказаная думка, што гэта была савецкая праваакцыя. Савецкая імперыя ў пачатку 20-х гадоў пачала рассыпацца пад ударамі нацыянальных рухаў. Таму РКП (б) і прыдумала «беларусізацыю», каб закаваць Саюз, даць выхад нацыянальнаму сепаратызму, а пасля выніішчыць усю красу нацыі.

Выклікалі цікавасць у гісторыкаў і тэмы разгрому нацыянальнага руху, палітычных рэпрэсіяў, германскай і савецкай акупацыяў, сучаснага стану беларускай дзяржаўнасці.

У сваіх даследаваннях беларускія гісторыкі чамусьці абмінаюць тэму беларускай дзяржаўнасці. Гавораць пра нацыянальную ідэю, пра палітычныя партыі, але як сама па сабе, беларуская дзяржаўнасць не была асветленая ані ў адным даследаванні.

- Сённяшняя беларуская дзяржава не мае сваёй канцэпцыі развіцця Беларусі. Бо тое, што адбываецца сёння, відавочна, не ёсць рэалізацыяй канцэпцыі беларускай дзяржаўнасці, - падсумавала Алена Глагоўская. Яна ўпэўненая ў неабходнасці правядзення падобных канферэнцыяў і ў далейшым.

**Іван Паўлёнак**

ПАГОНЯ
Заснавальнік: культурна-асветніцкі фонд "Бацькаўшчына"

Адрас рэдакцыі: 230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11. Тэл.72-37-14, 72-35-61, факс 72-29-96. E-mail: pagonia@irex.minsk.by
Падпісны індэкс: 63124.

Рэгістрацыйны нумар 597. Нумар газеты надрукаваны ў Гарадзенскім абласной унітарным паліграфічным прадпрыемстве «Гродзенская друкарня» Адрас: 230023, г.Гродна, вул. Паліграфістаў, 4.
Замова 3 397 Наклад 7 250
Нумар падпісаны да друку ў 16.00 01.11.2000 г.

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні не абавязкова адлюстроўваюць погляд рэдакцыі. Якасць друку адпавядае пададзеным рэдакцыяй дыяпазітывам.
Аб'ём - два ўмоўныя друкарскія аркушы.

Галоўны рэдактар Мікола Маркевіч

Камп'ютарны набор: Аксана Бурдзюк, камп'ютарная вёрстка: Аляксей Салей